Рэспубліка Беларусь

# Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
№3 (3) • 26 ЛІСТАПАДА -- 2 СНЕЖНЯ 1991 Г. • КОШТ 15 КАП.



## 850

ХТО ЯНЫ, гэтыя людзі, што нібыта ўспышкі маланкі на змрочным небасхіле? Толькі здаецца, што іх шмат. У параўнанні з процьмаю чалавечых жыццяў, якія, як цені, праходзяць па Зямлі і знікаюць у бездані — іх адзінкі. Нібыта далучаныя да таямніц свету, яны стараюцца данесці да сляпога чалавецтва іншыя, вышэйшыя ісціны.

Такі Нізамі.

Яго гіганцкая, агромністая творчасць нібы акіян — можна пагружацца ў яго ўсё глыбей і глыбей — і ніколі не дасягнуць дна. Аб чым паэмы Нізамі? У "Лейлі і Меджнуне" эстэт убачыць дасканаласць паэтычнай формы. Закаханы — высокую і светлую мелодыю кахання. А філосаф ці містык — барацьбу Дабра і Зла, крайнасць полюсаў, бо каханне — гэта заўсёды Жыццё і Смерць.

А "Сем прыгажунь"? Ці гэта гімн жаночай прыгажосці, што дала кожная зямная раса? Заклік да адзінства? А можа, гэта схаваная сімволіка сямі планет і, далей, 7 чашаў господавых, якія прыгатаваны людзям на Страшным Судзе? А "Скарбонка таямніц"? Ад яе старонак павявае тым грозным водбліскам іншых сфераў, аб чым магутна абвясціў хіба што толькі Дантэ:

Нетры дыхаюць грозна. Чакаюць — кали?
Судны дзень падыходзіць. Удар будзе страшны Зямлі.
Завіхурыць шалёна! Імгненне праходзіць — і вось
Пераломлены неба ланцуг, перацерта нябесная вось.
Як змяя, небасхіл перакруціцца скруткам — і ўніз.
Здасца, што чалавек — усяго толькі боскі капрыз.
Да пячонак працята зямля — невыноснымі сталі ёй людзі!
Гэта вы, толькі вы так зямлю гэтую змучылі, людзі!

Хіба гэта не пра нас, сённяшніх? ... Нізамі трэба чытаць. Не толькі ў юбілеі. Бо ён належыць усяму чалавецтву, ён сын Зямлі.

## *Палад Бюль-Бюль-аглы:*

## "ЗРУЙНАВАЦЬ НЕМАГЧЫМА"

12 лістапада ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі адбылася прэс-канферэнцыя дэлегацыі Азербайджанскай рэспублікі на чале з міністрам культуры Паладам Бюль-Бюль- аглы, у якой узялі ўдзел міністр культуры рэспублікі Беларусь Я. Вайтовіч, кіраўнікі Саюза пісьменнікаў, дзеячы культуры. Адказы на пытанні ўдзельнікаў, а таксама гутаркі падчас прыезду сталі асновай гэтай публікацыі, дзе, як нам здаецца, падняты праблемы, актуальныя і для нашай культуры.

*(Пачатак. Заканчэнне на 2-й стар.)*



**Паглядзім уважліва на гэтыя рукі.
Яны — прыгожыя.
Напэўна,такія рукі былі ў таго, хто стварыў зямлю і чалавека.
Дарэчы, таксама з гліны.**

Фота Міколы АМЕЛЬЧАНКІ.

**13-17 лістапада Гародня прымала гасцей з Беластока. Насычаную праграму свята мастацтваў склалі канцэрты сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам Міраслава Блашчыка, выставы графіка Яна Бараkоўскага, жывапісца Стэфана Рыбі, фотамайстроў Пятра Харашухі і Анджэя Сакульскага, спектаклі фальклорных і тэатральных калектываў. Перад студэнтамі Гродзенскага ўніверсітэта, працаўнікамі гродзеншчыны, дзецьмі-інвалідамі выступілі літаратары суседняй краіны, якія пішуць па-беларуску.**

**Наталля СЕМЯЖОН**

"Песняры" па запрашэнні пастаяннага прадстаўніцтва рэспублікі Беларусь пры ААН наведалі ЗША. Грандыёзны поспех у амерыканцаў мела новая праграма "Вянок", прысвечаная Максіму Багдановічу. Музыканты выступілі таксама перад земля камі-эмігрантамі.

**А.С.**

**У Віцебску праходзіла навуковая канферэнцыя з нагоды 830-годдзя стварэння крыжа Ефрасінні Полацкай. У канферэнцыі бралі ўдзел гісторыкі, мастацтвазнаўцы, літаратары з Беларусі, Масквы і Калугі. Сродкі ад дабрачыннага канцэрта майстроў мастацтваў пойдуць на аднаўленне Спаса-Праабражэнскай царквы Ефрасіннеўскага кляштара.**

**Галіна БУЛЫКА**

Жыхары польскага горада Любляны пазнаёміліся з творчасцю беларускіх мастакоў: жывапісца Міколы Апёка і гафікаў Уладзіміра Шнарэвіча і Валянціна Губарава.

**Н.К.**

**Студэнты і выкладчыкі філфака рыхтуюць да 70-гадовага юбілею БДУ святочную праграму "Атрэсіны", у якой імкнуцца адрадзіць лепшыя традыцыі даўняга студэнцтва. У святе возьмуць непасрэдны ўдзел многія дзеячы беларускай культуры - выпускнікі факультэта.**

**Уласная інфармацыя**

## *Палад Бюль-Бюль-аглы:*

# "ЗРУЙНАВАЦЬ НЕМАГЧЫМА"



*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**НАШ КАР.:** Ці бывалі вы раней на Беларусі?

**П. Бюль-Бюль-аглы:** У Беларусі я не ўпершыню. Артыстам праехаў яе ўсю, добра знаёмы з вашымі людзьмі — шчырымі, сардэчнымі. Тут у мяне шмат сяброў. Але ў якасці міністра, вядома, прыязджаю сюды толькі зараз. Думаецца, што ў нашых дзяржаў будуць моцныя супольныя інтарэсы, культурныя сувязі застануцца трывалымі.

Мы перажываем зараз цяжкія часы. Увод войска ў Баку, ахвяры гэтай акцыі болем адгукнуліся ў народзе, яны забудуцца не хутка, калі ўвогуле забудуцца. Па сутнасці, ідзе зараз вайна з-за Карабаха, і, на наш погляд, яе гістарычныя карані, самі падзеі асвятляюцца ва ўсесаюзным друку аднабакова. Наш народ шукае сваё месца ў посткамуністычным свеце. Тым больш яскрава паўстае перад нашым поглядам постаць вялікага Нізамі, 850-годдзе з дня нараджэння якога адзначае не толькі Азербайджан, бо фігуры такога маштабу — агульначалавечы здабытак.

Мы ўглядаемся зараз не толькі ў XII — XIII стагоддзі, на стыку якіх жыў і працаваў паэт, але і ў нашу гісторыю, якая ўскормлена цывілізацыямі, створанымі антычным светам і арабскім халіфатам. Мы бачым сваю магутную спадчыну не тое каб зруйнаванай — зруйнаваць такое немагчыма , але як бы прысыпленую попелам забыцця. Па сутнасці, апошнія дзесяцігоддзі былі для яе катастрафічнымі: двойчы зменены алфавіт — спачатку з арабскай пісьменнасці мы перайшлі на лацініцу, пасля на кірыліцу. Навука аказалася адарванай ад глыбінных пластоў, бо ва універсітэтах не вывучалі арабскую пісьменнасць, а без яе як прачытаеш творы эпохі Сярэднявечча, ды і больш позніх часоў?

Тым не меней, у азербайджанскай культуры слаўнае мінулае і, як мне здаецца, вялікая будучыня. І таму зараз мы павінны зрабіць усё магчымае, каб не страціць ні каліва з таго, што здабыта ў галіне культуры. А гэта нялёгка. Усе эканамічныя спады б'юць перш за ўсё па ёй, адгукаюцца на творчасці.

**НАШ КАР.:** Ці задаволены Вы выдаткамі на культуру?

**П. Бюль-Бюль-аглы.:** Сапраўды, самы вялікі наш клопат — фінансаванне.

Хачу асабліва адзначыць вопыт беларусаў, якія першымі ў краіне прынялі закон аб культуры. Паверце, гэта мела вялікае значэнне для ўсіх рэспублік (ці, як цяпер, суверэнных дзяржаў). Па сутнасці, мы атрымалі прэцэдэнт, на які маглі спасылацца. Мабыць, фінансісты ўсяго свету маюць звычку не вельмі траціцца на культуру. Нажаль, больш ахвотна даюць грошы на ўзбраенне. У нашых жа сённяшніх умовах увогуле цяжка гаварыць пра фінансаванне, скажам, аркестра, калі спыняюцца прадпрыемствы...

Тым не меней, па выдатках на культуру на 1991 год нам грэх скардзіцца. У мінулым годзе мы былі, па сутнасці, першымі, хто падняў заробак работнікам культуры. Тады гэта было істотнае павышэнне: мінімум —40, максімум — 80 рублёў, асабліва для бібліятэкараў, музейных работнікаў. Але хуткая дэвальвацыя рубля звяла гэтую акцыю на нішто. У пачатку 1991 года Міністэрства ізноўку павысіла заробкі на 20%.

**НАШ КАР.:** Але ўжо да сярэдзіны года сітуацыя істотна змянілася...

**П. Бюль-Бюль-аглы.:** І мы, напружыўшыся, са сваіх рэзерваў знайшлі яшчэ паўтара мільёны... Але адбылося гэта за кошт кніг, якія мы не закупілі, іншых матэрыяльных каштоўнасцей. Шкада людзей. У Баку амаль усе жывуць з рынку, цэны — шалёныя! Да таго ж з'язджае шмат народу: каля 200 тысяч армян, яўрэі едуць у Ізраіль, пераязджае ў іншыя рэгіёны рускамоўнае насельніцтва. Сярод іх многа работнікаў культуры. І тых, хто застаецца, трэба ўтрымаць на месцах.

**НАШ КАР.:** Якія перспектывы на будучае мае Ваша Міністэрства?

**П. Бюль-Бюль-аглы.:** Хаця і прэзідэнт Муталібаў, і прэм'ер Гасанаў вельмі ўважліва ставяцца да нашых праблем, нас чакаюць цяжкія часы. Калі ўлічваць "польскі варыянт", то бачна: там практычна знішчаны айчынны кінематограф, разбягаюцца сімфанічныя аркестры. Думаю, што ў нашага грамадства хопіць цвярозасці, каб захаваць у культуры асноўнае.

Але... Паспавядаюся вам (у сябе я яшчэ не заўсёды асмельваюся гаварыць пра гэта ўслых): спадзяюся, што рынацныя адносіны шмат каго паставяць на сваё месца. Ну дзе, у якой краіне артыст можа атрымліваць зарплату і не выходзіць на сцэну? Ён, бач, народны, і нават прыходзіць на працу не заўсёды жадае.. А другі, такі ж народны, ужо не можа спяваць — але выходзіць і спявае. І я, міністр, пакуль што тут бяссільны. Скажам, многія хочуць ездзіць за мяжу — і адначасна атрымліваць у сябе заработную плату. Некаторыя ніяк не прывыкнуць, што для спажывецкіх настрояў час скончыўся. Прыходзіць час кантрактаў, калі плаціць будуць не за мінулыя заслугі, а за зробленае сёння...

**НАШ КАР.:** Ці не перашкаджае Ваша праца міністра Вашай уласнай творчасці?

**П. Бюль-Бюль-аглы.:** Пра кампазітарскую дзейнасць, пра ўласнае выкананне і казаць не даводзіцца. Але ёсць магчымасць клапаціцца пра людзей творчых. На ўласнай скуры ведаю, што такое для артыста нялётнае надвор'е, кансервы і каўбаса ў халоднай гасцініцы.

А прафесія міністра? Ей нідзе не вучаць. Ён сам вучыцца, часам нібыта б'ючыся галавой аб сцяну невырашальных праблем. Гэта добра ведае, дарэчы, і ваш міністр Я. Вайтовіч, з якім я рады тут сустрэцца, бо так сталася — у Маскве мы часта адстойваем спрэчныя пытанні разам.

Я спадзяюся ў хуткім часе падпісаць з Міністэрствам культуры Беларусі пагадненне аб супрацоўніцтве. І добра, што сённяшні крок да гэтага звязаны з імем Нізамі. Імем светлым і неўміручым...

## *ГАЛЕРЭЯ*



**ЗІМОВЫ ВЕЧАР. Нечаканы званок. Мастак адкрыў дзверы і ўбачыў натоўп маладых людзей з паганскімі сымбалямі ў руках.**

**—Адкуль вы? — запытаўся мастак.**

**—Мы людзі не простыя, з далёкага краю, хлопцы ўсе сталыя, з-пад самага раю.**

**—Куды ідзеце?**

**—Ідзём кругом света, аж да пана Лета. Мы к лету ідзём, казу вядзём і радасць нясём.**

**—Дык просім у хату.**

**Так нарадзілася новая карціна Леаніда Шчамялёва "Каляды". Застаецца адно пашкадаваць, што перад табой, шаноўны чытач, яе чорна-белая выява, бо змест "Каляд" не акрэсліваецца сюжэтам, ён прытоены ў пяшчотных колерах, якімі афарбавана маладосць, паядналая з вечнасцю старажытным абрадам.**

**Творчасць Леаніда Шчамялёва — гэта выбух сонечных фарбаў. Нават калі мастак малюе зіму і ноч — ён малюе сонца. Вялікае, жоўтае сонца, якое насычае змрочнае сутонне экзістэнцыяй святла і цяплыні. Зялёная энергія жыцця і жоўтая энергія радасці шугаюць, як два полымі, ствараючы вобраз вясёлай, вясёлкавай, вясельнай Беларусі. Яна, як альтэрнатыва той занядбанай, жабрацкай, панылай Беларусі, якую спакон веку малюе "дэмакратычны" пэндзаль, раз-пораз акунаючыся ў аднастайны бруд. Яна, як альтэрнатыва бясконцым апакаліпсісам, у якіх звычайная мізантропія выдае сябе за чалавекалюбства.**

**Краіна святла, краіна — свята, краіна, дзе хочацца жыць і не хочацца паміраць. Беларусь Шчамялёва.**

**В.А.**




## АБО ХРОНІКА АДНАГО ДЗЯЖУРСТВА

Другі год працую на "хуткай дапамозе". Працую начамі, таму што ўдзень вучуся ў медыцынскім інстытуце. І менавіта ноччу дзяжурствы нашы робяцца асабліва драматычнымі.

... Брудная, зашмальцаваная кватэра; дзе ўсё перавернута —была бойка. Мужчына сярэдніх гадоў у парванай кашулі перагароджвае дарогу: "Не пушчу мужыкоў глядзець на маю жонку!" Жанчына на канапе жалобна плача. Пасля некаторых перамоваў (а час ідзе) мы, нарэшце, праходзім у пакой, каб паглядзець пацярпелую. На целе — сляды бойкі, драпіны. Дзве рабрыны пераламаныя. Вока ўвачавідкі заплывае барвовай чырваннню. Двое малых туляцца ў калідоры.

Можна не пытацца, з-за чаго адбылася гэтая сварка паміж мужам і жонкаю — пахне перагарам, у мужчыны часам блытаная гаворка. Па рэпліках здагадваемся, што не падзялілі ці то бутэльку, ці то каўбасу на стале. Жанчыну выносім на насілках, муж бяжыць ззаду, пытаецца, што яму будзе, і тут жа дадае, што ён кахае жонку і што гэта "чорт паблытаў"...

Яшчэ адна бойка — на гэты раз у інтэрнаце. Мужчын разнялі, але яны ненавісна касавурацца адзін на аднаго, абодва ў крыві, у пісягах, і ўсё тым жа гарэлачным пахам патыхае ад кожнага. Міліцыя звыкла складае пратакол, дзяжурная глядзіць, як мы завіхаемся каля пакалечаных, з гадлівасцю кідае: "Яшчэ бінтаваць іх ды паіць валяр'янкай. Мыш'яку лепей бы далі".

Лягчэй за ўсё сказаць:"Гэта нелюдзі, з імі і абыходзіцца трэба адпаведна". Заўважаю — міліцыя прывыкла да ўсяго, яна не паважае сваіх "кліентаў", а тыя і не крыўдзяцца. А мы ... мы лечым гэтых дужых, здаровых па сутнасці людзей і міжволі думаем, што зараз нехта ліхаманкава лічыць хвіліны, чакаючы "хуткую дапамогу", а хтосьці, магчыма, і не дачакаецца... Але не будзем гаварыць гэта таму, у каго выбітыя зубы ці звернутая сківіца, і ён зараз курчыцца ад болю — гэтак жа, як і тыя, нявінныя... Можна задаць пытанне: "З-за чаго бойка?" І чаргоўны раз бачыш, што была яна з-за такой дробязі, пра якую заўтра яны самі, хутчэй за ўсё, нават не будуць памятаць. Але зарад нянавісці, які лунае тут, рассеецца не хутка. Ён будзе атручваць атмасферу, атручваць усіх, хто побач.

Як бяздумна мы выкідаем у навакольле гэтую нянавісць і злоснасць! Чорныя хмары іх атручваюць чалавечыя твары, скажаюць нскрэплыя маладыя душы. Рана заўтра загоіцца, але не забудуць пра ўсё, што бачылі, тыя, пра каго нават не задумваюцца дарослыя — дзеці ці юнакі.

Ім сёння асабліва цяжка. Цяжка ўражлівым, далікатным людзям. Цяжка ўсім, хто мае душу. Часам самі яны не ведаюць прычыны, па якой пакутуюць. Баліць сэрца, гняце страх — цяжкі, невыносны...

Чаргоўны выклік. Жанчына. Адзінокая. Скаргі на тое, што "нешта душыць, не дае дыхаць". Робім укол. Стала лягчэй. Але адпускаць нас не хоча:

—Пасядзіце хаця хвілінку. Я звару вам кавы. Можа хочаце выпіць? Толькі не пакідайце мяне, мне страшна...

Страшна многім. Але мы, лекары "хуткай", гэта не лечым. Сацыяльны дыягназ — не наша справа. Мы сутыкаемся толькі з вынікамі.

... Хаця ўсё было ясна з першага погляду, "хуткую" ўсё ж выклікалі. Чарговы самазабойца. Падаў з дзевятага паверха, хаця жыве на чацвёртым. Мабыць, каб было напэўна. Не хацеў скалечаным вяртацца ў жыццё. І не хацеў самога гэтага жыцця. Чарговы раз канстатуем смерць. Ён сам выбраў яе, але, гледзячы на скалечаны труп маладога чалавека, якому б жыць ды жыць, чамусьці ўспамінаецца прачытанае — некалі самазабойства лічылася самым страшным грахом, самазабойцу нават не хавалі на могілках ці ў любым асвячаным месцы. Нават маліцца за іх можна было ці не адзін раз у год.

Можа, каб хлопец гэты быў вернікам, гэта б яго выратавала? Можа, гэтай цёмнай ноччу ён не быў бы такім адзінокім?

... Кажуць, людзі найбольш раскрываюцца перад святарамі і ўрачамі. Гэты стары, увесь у склератычных вузлах і з абвіслымі шчокамі пенсіянера, кіпіць злосцю:

—Каб не было гэтай праклятай перабудовы, я быў бы здаровым... Сёння на плошчы маладыя гады на Леніна плявузгалі...

Ён торгаецца, я раблю заўвагу, каб сядзеў спакойна —зламаю іголку, якою раблю укол. Ён падпарадкоўваецца, але ненадоўга:

—У мяне ў лагеры яны б... Эх, няма сілы!

—Дзядуля, вам трэба берагчы сваё здароўе...

Ён ускідваецца з той жа нянавісцю:

—І ты, мабыць, з такіх? А я Сталіна любіў, люблю і буду любіць!

... Яго ідэалагічны лямант, нібы мячык, дагане нас на лесвіцы, і, можа, яна ад гэтага здаецца вельмі доўгаю...

А гэты дзіцёнак задыхаецца ў прыступе астмы. На гэты раз лекі знайшліся. Але іх літаральна з кожным разам становіцца меней. З кожным тыднем... Той, хто на валюту закупляў парасоны ці старыя японскія машыны, не бачыў, як ламаюць рукі маці і як накідваюцца на нас, праклінаючы за тое, у чым мы не вінаватыя. Хутка мы будзем лячыць толькі словамі. Няхай бы з намі пасхаў той, хто росчыркам пяра перавёў грошы на іншыя патрэбы, а не на лекі. Уначы, калі навокал толькі цёмныя маўклівы дамы і пустэльныя гулкія вуліцы, бяда здаецца асабліва вялікай і непапраўнай.

... Мы з урачом суцяшаем жанчыну, але абодва бачым —наўрад ці перажыве гэты месяц яе трыццацігадовая дачка. Рак прагрэсіруе. Месяц таму, калі мы прыязджалі ў гэтую кватэру, хворая не была такой схуднелай і абыякавай да ўсяго, нібыта ўжо пераступіла нейкую нябачную мяжу. Укол дапамог ёй, яна перастала да крыві кусаць вусны, шчокі трохі паружавелі. А маці яе стогне і праклінае ўсё на свеце:

—За што мне гэта, Божа? Чаму не я? Чаму яна?!

У старадаўніх народаў да смерці рыхтаваліся, яе ўспрымалі, як найвялікшую падзею ў жыцці — сапраўды, што можа быць больш важнае і ўрачыстае, чым смерць? "Memento mori" —такі дэвіз быў у старажытных рымлянаў: "Помні аб смерці". Мы жывём так, нібыта бессмяротныя, нібыта смерць — нечаканая і неспадзяваная і яе можна абмінуць. Але гэтая трыццацігадовая жанчына нагадвае мне пра тых, хто сустракаў яе мужна і дастойна:

—Мама, супакойся. Мне няма чаго шкадаваць. Маё жыццё было нікому не патрэбнае, я нават не нарадзіла дзіця, таму што хацелася жыць для сябе. Пажыла. Досыць!

Мне вельмі хочацца паслухаць іх спрэчку, але часу няма, мы спяшаемся. А шкада. Апошняе, што крычыць маці, гэта ўсё той жа папрок-запытанне — у Жыцця, у Бога:

—А я жыла для цябе. Выходзіць, жыла дарэмна, калі ты нават мяне не шкадуеш?!

Жыццё і Смерць. Кожную ноч яны спрачаюцца паміж сабою. А мы, стомленыя сведкі, слухаем, але часта не чуем іх галасоў. Урач ставіць дыягназ, я раблю ўколы. Калі трэба, забіраем у бальніцу. І ўсё.

Мы не можам сесці каля хворага, цярпліва выслухаць яго нараканні, скаргі, клопаты. Уважліва, гадзінамі, слухаць пульс. Сачыць, дзень у дзень, за яго здароўем. Мы — "хуткая". Але і ўчастковы ўрач, які павінен ведаць хворых, зрабіць гэтага не можа. Усе ўрачы загружаныя, замучаныя побытам і неўладкаванасцю сённяшняга жыцця без самага неабходнага. Наш шафёр атрымлівае ўдвая болей за ўрача. Ён надаўна баставаў. Медыкі не адважыліся.

Здаецца, што мы па адзін бок жыцця, а яны, хворыя, па другі. Ды не, мы ўсе разам — на айсбергу нашай сістэмы аховы здароўя, якая павольна "ідзе на дно". Гаворым пра павагу да Асобы, якой усё болей няўтульна і нядобра, але дзяржава вельмі часта пакідае гэтую Асобу без аніякага клопату і гарантый навят на ўласнае жыццё. Ноч канчаецца, выклікаў робіцца меней, камусьці мы ў поўным сэнсе ўратавалі жыццё. З жалем гляджу на сваіх старэйшых калег —я дык прыду сюды праз колькі сутак. Яны ж дзяжураць пастаянна.

Гэта вельмі цяжкая праца — на "хуткай дапамозе". Ісці ўначы ў чужую, разбэрсаную кватэру, да чужога гора ці нянавісці, бачыць, як некаторыя людзі, якія маглі б жыць хаця не выдатна, але добра, калечаць сабе падобных. Як радуешся, калі чуеш ласкавае слова, бачыш павагу адзін да аднаго. Такіх кватэр няшмат, але яны ёсць. Калі назіраеш, як у гэтым шалёным свеце кахаюць, клапоцяцца адзін аб адным, ствараюць свой, мяккі, лагодны свет людзі, — вершы у чалавецтва.

І з гэтай верай пачынаеш кожнае новае дзяжурства.

**Руслан КАЧАТКОЎ.**

*АДНЫМ з першых свой ліст у рэдакцыю нашай газеты даслаў спалар Аляксей Анішчык з Вільні.*

*Прапануем увазе нашых чытачоў яго матэрыял.*

## ЧАГО НЕ ВЕДАЮЦЬ БАЦЬКІ...

Французскія навукоўцы правялі шэраг эксперыментаў з немаўлятамі. Як вядома, дзеці такога ўзросту яшчэ не ведаюць і не разумеюць аніводнага слова. Аднак у іх выяўлена станоўчая рэакцыя на гукі роднае мовы. На іншаземную гаворку яны рэагавалі адмоўна. Навучанне дзяцей у школе на роднай мове поўнасцю забяспечвае развіццё здольнасцяў у межах, адведзеных прыродай. І наадварот — навучанне ў дзіцячых садках і школах на чужой мове, не можа гарантаваць паўнавартаснага развіцця.

Ці не тут схавана прычына адсталасці многіх народаў, якім была навязана іншамоўная школа? І ці не калечаць бацькі сваіх дзяцей, пасылаючы іх у "прэстыжную" школу, дзе выкладаюць на чужой мове? Звернемся да фактаў. На радзіме Адама Міцкевіча ў Навагрудку ў 1934 годзе была зліквідавана беларуская гімназія. У свой час яе скончылі 150 вучняў.

Вось толькі некаторыя з іх: прафесар Мэрылендскага ўніверсітэта, уладальнік залатога медаля ў галіне астранаўтыкі, дарадца Белага Дома ў Вашынгтоне Барыс Кіт, прафесар хіміі Алан Орса, архімандрыт у Англіі Леў Гарошка.

Згодна дадзеных Віленскага Нацыянальнага Камітэта, у 1916 годзе ў Вільні было пяць беларускамоўных школаў, дзе працавалі 17 выкладчыкаў. А ў Віленскім, Ашмянскім і Лідскім паветах —160 беларускіх выкладчыкаў. З 1921 года ў Вільні дзейнічал педагагічныя курсы для падрыхтоўкі выкладчыкаў беларускай мовы. Яны былі зліквідаваны польскімі ўладамі ў 1926 годзе Яшчэ ў 1922 годзе ў Вільні працавалі 10 бела рускіх школаў.

У сённяшнім Мінску няма ніводнае школы з выкладаннем усіх прадметаў на роднай мове.

Праўда, калі ўзяць звесткі па ўсёй рэспубліцы, то тут справы крыху лепшыя. Ёсц над чым задумацца тым, у каго растуць дзеці.

Аляксей Анішчык
г. Вільня

# ЛІТВА

Менавіта так, шаноўныя спадары, выглядала карта Вялікага княства Літоўскага напачатку XVIII стагоддзя, да жахлівых падзеяў, звязаных з падзеламі Рэчы Паспалітай. Аўтар карты— немец па паходжанню, Георг Матэвус Зойтар. У 1707 годзе ён заснаваў у горадзе Аўгсбургу ўласную фірму, дзе пры яго непасрэдным удзеле было выдадзена каля 500 картаў.

Адной з іх была "Літванія", якая з'явілася ў свет у 1745 годзе.

На карце вы бачыце надпіс на лацінскай мове: "Новая і дакладная Вялікага княства Літоўскага з яго ваяводствамі і паветамі, накрэсленая старанна і выдадзеная Матэвусам Зойтэрам, імператарскім і каралеўскім картографам і друкаром..."

Твор нямецкага майстра мае вялікую ступень інфармацыі. На карце каля 400 населеных пунктаў. Пазначаны межы нашай дзяржавы, адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, ваяводствы, паветы, гарады, мястэчкі і нават некаторыя сёлы. Дарэчы, паводле адміністрацыйнай рэформы 1564 — 1566 гадоў, тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага складалася з 13 ваяводстваў. Большая іх частка — землі сучаснай Беларусі.

Карту "Літванія" можна ўбачыць у Дзяржаўным музеі. Яе падаравў нам у 1976 годзе жыхар італьянскай сталіцы, паходжаннем з Беларусі, Эмэрык Гутэн-Чапскі. Колькі словаў пра яго:Эмэрык Гутэн-Чапскі — прадстаўнік роду, які паходзіў са Станькава, што ля Койданава. Яго дзед Эмэрык Захарыяш Гутэн-Чапскі меў добрую нумізматычную калекцыю, цікавую бібліятэку. Бацька Эмэрыка Гутэн-Чапскага — Караль Аляксандр Гутэн-Чапскі займаў пасаду гарадскога галавы Менска з 1891 па 1901 год. Падзеі 1917 — 1920 гадоў прымусілі іх змяняць месцы жыхарства. Спачатку яны жылі ў Стаўбцах, затым у Вільні, пасля была Слонімшчына. Верасень 1939 года прымусіў іх зноў пакінуць сталае месца.

Гэтым разам Гутэн-Чапскія пераехалі ў Рым.

Менавіта там і трапляе ў рукі графа-калекцыянера карта "Літванія".

Тэма, якая тычыцца картаў Беларусі, досыць цікавая, пра яе немагчыма расказаць у адным артыкуле, на прыкладзе адной, хаця і вельмі каштоўнай, карты. Таму да гэтай тэмы мы яшчэ вернемся.



# ВАНІЯ




## ТРАНЯТА (ТРАЙНАТ)

**(? — 1264)**

**Князь Жамойціі,**
**Вялікі князь**
**Вялікага княства Літоўскага**
**(1263 — 1264).**

**Пасля смерці Міндоўга ў Вялікім княстве Літоўскім пачалася дзесяцігадовая міжкняская барацьба. Вялікакняскую пасаду пасля Міндоўга заняў Транята, які ў 1263 годзе арганізаваў забойства свайго папярэдніка. Паходзіў ён, дарэчы, з Жамойціі. Транята добра разумеў, што ў Полацку і Навагрудку ёсць яшчэ прэтэндэнты на Літву — Таўцівіл і Войшалк. Першым свае прэтэнзіі да Траняты выказаў яго брат Таўцівіл. Транята забіў Таўцівіла, сын якога, Канстанцін, быў вымушаны ўцячы ў Ноўгарад. У хуткім часе чатыры канюшых Міндоўга вырашылі адпомсціць за свайго гаспадара і забілі Траняту, калі той ішоў у лазню.**

**Транята не адыграў істотнай ролі ў гісторыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы.**

## ВОЙШАЛК

**(1223 —1268)**

**Князь навагрудскі,**
**Вялікі князь**
**Вялікага княства Літоўскага**
**(1264 — 1267).**

Калі стаіш на стромкай вяршыні над Навагрудкам, у руінах нскалі грознага замка, лягчэй уяўляеш сабе Войшалка — гэтую трагічную, супярэчлівую постаць пачатку Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Сын Міндоўга, ён доўгі час быў як бы ў цэню свайго славутага бацькі. Той лаўчыў, пераходзіў з паганства ў праваслаўе, затым у каталіцтва, прымерваў карону, гвалтам трымаў у сябе чужую жонку. Войшалк жа нібыта стаяў убаку, але, вышаўшы на палітычную арэну, праявіў сябе дальнабачным палітыкам.

Яму ўдалося ўтрымлівацца на лязе хісткага міру між Навагрудкам і яго магутным супернікам — Галіцка-Валынскім княствам. У кароткім прамежку перамір'я малады князь стаў мніхам і нават заснаваў "на рацэ на Немне, межы Літвою і Новымгородком" Лаўрышаўскі кляштар.

Але бурлівыя падзеі хутка ўцягнулі яго зноў у вір палітыкі.

Саюз з Полацкам, захоп князя Рамана Галіцкага ў палон.

Падчас кароткатрывалага знаходжання Траняты на вялікакняскай пасадзе Войшалк вымушаны быў уцякаць у Пінск і ўважліва сачыць за падзеямі. Праз некалькі месяцаў Транята быў забіты. Пры дапамозе пінскіх палкоў Войшалк вяртае Навагрудак.

Галоўнай сваёй мэтай на вялікакняскай пасадзе ён лічыць хрышчэнне Літвы, але гэтага не адбылося з-за пскоўскага князя Даўмонта (былы нальшанскі князь), які адмовіў яму. У 1267 годзе Войшалк перадаў уладу ў Вялікім княстве Літоўскім князю Шварну.

1268 год. На з'ездзе князёў ва Уладзіміры-Валынскім Войшалк быў забіты.

Месца яго пахавання дакладна невядома. Калі яго хавалі як мніха, то ў кляштары, які прастаяў на беразе Нёмана амаль сем стагоддзяў. Калі хавалі як князя, то, магчыма, магіла яго была ў Барысаглебскай царкве , дзе ён прымаў хрышчэнне.




**ХАСЭ АРТЭГА-І-ГАСЭТ нарадзіўся ў 1883 годзе. Скончыў Мадрыдскі універсітэт. Вывучаў філасофію ў Лейпцыгу, Берліне, Марбургу. На працягу ўсёй творчай дзейнасці Артэга-І-Гасэт шмат займаўся праблемай дэгуманізацыі культуры. Адна з яго буйнейшых прац так і называлася — "Дэгуманізацыя мастацтва" (1925). Крызіс культуры філосаф атаясамліваў з крызісам буржуазнай эпохі і фармаваннем "масавага грамадства". "Культура" прапануе чытачам некалькі эсэ іспанскага філосафа. Нам падаліся актуальнымі інтэлектуальныя пошукі Артэгі-І-Гасэта. Вясковая Астурыя на пачатку стагоддзя і вясковая Беларусь у канцы яго падобны сваімі праблемамі. Магчыма, у пошуку свайго шляху нам прыдадуцца высновы вялікага іспанца. Тэксты друкуюцца з невялікімі скарачэннямі.**

Хасэ АРТЭГА-І-ГАСЭТ

# ТРЫ ЭСЭ



## ВЯСКОВАСЦЬ

Гэта здольнасць затрымліваць чалавека на вёсцы, якую мае зямля Астурыі, глыбока ўплывае на душу народа, які жыве на ёй. Эканамічны росквіт падымае вытанчаныя гарады, як Аўеда і Хіхон, што працягваюць бліскучыя традыцыі вытанчанай культуры. Але, не гледзячы на гэта, я знаходжу больш ці менш схаваную ва ўсіх астурыйцах вясковую глыбіню. Пад гарадской вопраткай грукаюць сэрцы земляробаў.

Мне было б вельмі цікава даведацца, ці нахмурыць бровы нейкі чытач з Астурыі, калі прачытае гэта?

... Напэўна існуюць астурыйцы, якія хацелі б убачыць сваю бацькаўшчыну цэнтрам цэнтраў, кантабрыйскім Парыжам, а на маіх гішпанскіх надзеях быццам прышпілена этыкетка астурыйскай вясковасці.

Нялёгка растлумачыць з дапамогай некалькіх слоў тое, што я хачу сказаць. Трэба ахапіць вельмі многае, і я не знайшоў больш удалай формы, як выказаць свае думкі ў звычайных гутарках. Не ведаю, калі змагу зрабіць гэта поўнасцю? Але вернемся да тэмы. Я не бачу іншага шляху да росквіту Гішпаніі, як той, што пралягае праз поле. Сучасны горад — гэта эканамічная і ідэалагічная форма, прыдуманая капіталізмам. Расы, якія здагадаліся стварыць у свой час такі тып горада, запанавалі. Ніхто не сумняваецца ў тым, што і нашае становішча было б лепшым, каб мы мелі такія здольнасці. Але самае лепшае — вораг добрага. Мы не змаглі арганізаваць структуру Гішпаніі з пункту гледжання сістэмы сучаснага горада. Гвалтоўна, праз інтымныя манеры нашага мыслення і нашай эканомікі, мы прыдумалі некалькі фікцый старых гарадоў, якія быццам астравы мадэрнізму, абкружаныя з усіх бакоў пустэльняй. Духу гэтых гарадоў, што былі выключэннем, мы аддалі матэрыяльную і маральную ўладу Гішпаніі. З аднаго боку, некалькі вуліц з трамваямі і некалькі тысяч гараджан, якія сноўдаюцца тудысюды. З другога боку —дзесяткі і дзесяткі кіламетраў далін і мільёны гішпанцаў, якія аруць сваю ніву, рыхтуюць сваю глебу і гоняць жывёлу ў хлеў. Для гэтых людзей мала прыстасаваныя ўсе інструменты сацыялізацыі: зводы законаў, Парламент, Друк, Школа... Для вялізнай гішпанскай прасторы, для вёскі, для сялян, для іх нерваў і думак — нічога. Такая дыспрапорцыя — фатальная.

Але гэта не значыць, што я буду цяпер яшчэ раз спяваць мелапею беднаму, бездапаможнаму аратаю. Не трэба шкадаваць аратая, наадварот. Патрэбна эксплуатацыя селяніна ў сэнсе выкарыстоўвання яго грамадскай, нацыянальнай і чалавечай годнасці. Народ — гэта сума жаданняў, інтарэсаў, страсцей і роздумаў. Чым большы натоўп жывых сумленняў, якія шукаюць формаў салідарнасці ці формаў барацьбы ўнутры грамадскай клеткі, тым большымі будуць патэнцыі грамадства. Ну, добра, чатыры пятых гішпанцаў не бяруць удзелу ў нацыянальным сінтэзе. Мяне амаль не хвалюе, што многія галасы не даходзяць да Парламента, але мяне надзвычай хвалюе, што сялянскія пачуцці, сялянскія думкі банальна знікаюць, яшчэ не зрабіўшыся нацыянальнымі думкамі і пачуццямі. Мне, які выкладае ва універсітэце, патрэбны набыткі сялянскага мыслення многа больш, чым сялянам мае інтэлектуальныя высілкі; з-за адсутнасці духоўнасці ў гэтых чатырох пятых Гішпаніі нашае жыццё — толькі інертная фікцыя, і вялікая частка маіх ідэй прыгаворана быць чыстай мастацкай выдумкай.

Наша праблема называецца: "Абуджэнне жыцця ў Гішпаніі". Аддамо перавагу рэальнаму XVII стагоддзю перад фіктыўным XX стагоддзем. Я не бачу іншых лекаў для аздараўлення Гішпаніі, як выправіць Мадрыд са сталіцы ў правінцыю, а правінцыю ў вёскі.

Гэта тэма, я думаю, невычэрпная. У яе адлюстраванні патрэбна было б паказаць тую небяспеку, якую нясе з сабою вясковасць, але цяпер больш важна выказаць меркаванне, што ўжо даўно сфармавана ўва мне, дзеля таго, каб апраўдаць чысты энтузіязм, які штурхнуў мяне шукаць у Астурыі расу годных людзей, якія здольныя браць удзел у сучасным жыцці, не губляючы пры гэтым духоўнай салідарнасці з родным полем. "Ён вярнуўся такім жа пастухом, як і паехаў", — пачуў я ў адной закусачнай горада Правіі пра магутнага, шыракаплечага горца, моцнага і грубага, з рашучым выразам твару; мяркуючы па знешнасці, ён няйначай як вярнуўся з Амерыкі.

Гэтыя людзі, якія вяртаюцца такімі ж пастухамі, як і паехалі, якія ў глыбіні душы не змяніліся ні на каліўца, гэтыя людзі зараз робяць у Астурыі — без рыторыкі, без гучных топікаў, без жэстыкуляцыі, без самалюбавання. Яны здольныя ажыццявіць у вясковым асяроддзі Гішпаніі пэўны мінімум мадэрнізацыі, што патрэбны для таго, каб трымацца на стрыжні часу.

Даліна, вільготная, сырая, са сваімі густымі каштанамі на схілах, са сваімі рудымі каровамі, якія мыкаюць у гонях, са сваімі пунямі, што трымаюцца на чатырох сваях; і сярод даліны —дамок, пафарбаваны ў блакітны колер і колер бычынай крыві... А побач з усім гэтым — не ў горадзе побач з прагматычным Урадам — лецішча, цудоўнае месца для "эмігранта", які збягае сюды і праз дзень вяртаецца зусім іншы, нібыта ў казцы.

## ТРАКТАТ ЧЫСТАГА ГАРЭННЯ

Каму прысвячаецца — дапытваліся — гэта шыкоўнае ахвярапрынашэнне гарэння?

... Кляштар Эль Эскарыял ёсць гарэнне без назвы, без прысвячэння, без трансцэндэнсіі. Гэта адно ненармальнае гарэнне, што адбівае сябе на сябе, адкідаючы ўсё тое, што існуе па-за ім. Неяк пасатанінскаму гэта гарэнне шануе сябе і для сябе спявае. Гэта гарэнне, прысвечанае гарэнню.

Перад выяваю Эрэхтэёна ў Парфеноне ў галаў нават не прыходзіць думка аб гарэнні яго дойлідаў: некранутыя руіны пад небам чысцюткага блакіту выпраменьваюць ззянне ідэальнай эстэтыкі, палітыкі, метафізікі, чыя энергія заўсёды сучасная. Заклапочаныя збіраннем гэтых густых выпраменьванняў дойліды згубілі пытанне працы ў працэсе шліфоўкі тых камянёў, якія пасля ўпарадкавання ўжо не могуць нас ані цікавіць, ані хваляваць.

Насупраць, у гэтым помніку нашых старэйшых паказваецца акамянелая душа, што ўся — воля, гарэнне,але без думак, без чуллівасці. Гэта архітэктура — жаданне, прага, гарэнне. Лепш чым дзе мы вывучаем тут, што такое гішпанская існасць, бо тут —крыніцы падземныя, адкуль, вiруючы, выцякала гісторыя самага ненармальнага ў Еўропе народа. Карлас V, Філіп II чулі свой народ на споведзі, і народ казаў у трызненні праўдзівасці: "Мы не зусім разумеем гэтыя каноны службы, якімі заклапочаны іншыя расы; мы не хочам быць дасведчанымі; не хочам быць інтымна рэлігійнымі; не хочам быць справядлівымі, і меней за ўсё нашае сэрца просіць асцярожнасці. Мы толькі хочам быць вялікімі". Адзін мой сябра наведаў у Веймары сястру Ніцшэ, якая ведала гішпанскую мову, бо працяглы тэрмін жыла ў Парагваі, і спытаў у яе, што думаў геніяльны мысліцель наконт гішпанцаў? Сеньёра Форстэт-Ніцшэ ўспомніла, што аднойчы Ніцшэ сказаў: "Гішпанцы! Вось там былі людзі, якія хацелі быць вельмі многім!"

Мы хацелі імпанаваць не ідэалу доблесці ці праўды, а нашым уласным жаданням.

... Як наш Дон Хуан, што любіў каханне і не мог пакахаць ніводнай жанчыны, мы хацелі жадаць без жадання. Мы былі ў гісторыі выбухам сляпой волі: незразумелай і суровай. Няўжо змрочны камень Сан-Ларэнса выказаў сум і жальбу нашых ідэй і, мусіць, аднАчасова змог выразіць гарэнне. Парадзіруючы працу доктара Паласіо Рубіа, мы змаглі б растлумачыць Эль Эскарыял, як "адзін трактат чыстага гарэння".

## МЕЛАНХОЛІЯ

Але куды можа завесці чыстае гарэнне? Ні ў які бок, нават лепш сказаць, толькі ў адзін: да меланхоліі.

Сервантэс складаў у сваім "Дон Кіхоце" крытыку чыстага гарэння. Дон Кіхот, як і Дон Хуан, — герой сціплага розуму, мае ідэі простыя, спакойныя, рытарычныя, якія амаль не абдумваюцца і якія больш падобныя да тэзісаў. Толькі ў яго душы трымцелі няпэўныя думкі, быццам песні марскіх хваляў. Але Дон Кіхот гарэў: гумарыстычная навальніца, у якую ён ператварыў сваё жыццё, выявіла ў ім чыстую энергію. "Ведзьмакі могуць забраць у мяне ўдачу, але гарэнне і настрой — ніколі!" Ён быў чалавекам сэрца, і гэта была ягоная адзіная рэальнасць, і вакол гэтага ён прыдумаў свет прывідаў. Усё наўкола ператвараецца ва ўмоўную прычыну, каб трэніравалася воля, і палымнела сэрца, і выбухала натхненне. Але надыходзіць момант, калі ўзнімаюцца ўнутры душы зусім не палаючыя цяжкія сумненні пра сэнс подзвігаў. І тады Сервантэс пачынае збіраць словы суму. Ад раздзела XVIII да канца рамана — усё горыч. "Меланхолія выцякла з сэрца, — гаворыць паэт і дадае: — Я не еў ад чыстага суму; хадзіў поўны цяжару і меланхоліі". "Дай мне памерці, —звяртаецца Дон Кіхот да Санча, — на руках маіх думак, сілай маёй нядолі". Першы раз прымае ён краму на кірмашы за краму на кірмашы. І перш за ўсё, сёння — гэта трывожная споведзь таго, хто гарэў. Ісціна — "я не ведаю таго, што я заваёўваю сілай маёй працы", не ведаю таго, чаго дасягаю маім гарэннем.

**Пераклад з іспанскай Сяргея ВЕРАЦІЛЫ.**

# ПАРТРЭТ ПАЛІТЫКА
## ў ДЭКАРАЦЫЯХ ЖЫЦЦЯ

**"Свет — тэатр, а людзі ў ім — акцёры", — прыкладна так сцвярджаў Уільям Шэкспір. Сапраўды, кожны з нас выконвае ў жыцці пэўную ролю. Але час трохі змяніўся. На авансцэну выйшлі палітыкі, якія па папулярнасці не саступаюць зоркам мастацтва.**

**Дзякуючы супярэчнасцям нашага жыцця, з'явіўся новы тып палітыка — маладога, энергічнага і , галоўнае, інтэлігентнага, адукаванага. Банальна? Але тое, што для ўсяго свету — норма, для нас — навіна.**

**Адзін з палітыкаў "новай фармацыі" — народны дэпутат Беларусі Віктар Ганчар. Напярэдадні сустрэчы мы дамовіліся — ані слова пра палітыку. Але ж гэта немагчыма ў наш наскрозь палітызаваны час.**



**— Сёння шмат і па-рознаму гавораць пра адраджэнне культуры. Віктар, Ваш погляд на праблему?**

— Для мяне галоўнае ў нацыянальным адраджэнні — адраджэнне інтэлекту нацыі. Тут патрэбны дзесяцігоддзі, жыццё некалькіх пакаленняў. Але адраджэнне нацыі без адраджэння інтэлекту — абсурд. На мой погляд, трэба распрацаваць усебаковую нацыянальную праграму, як ва ўсіх цывілізаваных краінах, напрыклад, у Японіі. І праграма павінна быць не часовая, а глабальная.

**— Ці не здаецца Вам, што покуль з'явіцца праграма, мы будзем схіляцца ад адной крайнасці да другой?**

— На жаль, агульны заняпад адбіўся і на стаўленні да адраджэння. Паўтаруся: павінна існаваць праграма, збалансаваная па ўсіх кампанентах: ад мовы — універсальнага носьбіта культуры і да падрыхтоўкі спецыялістаў ва ўсіх галінах. Дзе рыхтаваць спецыялістаў? Шчыра кажучы, Менск сёння не можа спаборнічаць не толькі з вядучымі замежнымі навучальнымі цэнтрамі, але нават і з Масквой, з Санкт-Пецярбургам.

Вядома, неабходна накіроўваць моладзь у вядучыя навучальныя ўстановы — найбольш прэстыжныя і элітарныя. На гэта нельга шкадаваць сродкаў. Шчыра кажучы, мы знаходзімся зараз на ўзроўні Расіі ў эпоху культурнага прарыву Пятра І. І таму рыхтаваць спецыялістаў трэба не толькі ў галінах навукі, тэхнікі, кіравання, але вельмі важная для нас — падрыхтоўка спецыялістаў-майстроў, бо на працягу дзесяцігоддзяў у нас выхоўвалі непавагу да прафесіяналаў.

**— Пасля 1917 года М. Бярдзяеў і ягоныя паслядоўнікі лічылі, што адзін з самых жахлівых вынікаў рэвалюцыі — раскол інтэлігенцыі. Ці не пагражае ён нам сёння?**

— Мне здаецца, сёння трэба казаць не пра пагрозу, а пра рэальны раскол. І гэта, у першую чаргу, адбіваецца на палітыцы. Ад гэтага нікуды не падзецца. Палітыка — квінтэсенцыя культуры грамадства. Апошнія падзеі ў рэспубліцы паказалі, на жаль, генетычную нецярпімасць да чужых пунктаў гледжання. Калі лепшыя прадстаўнікі — інтэлігенцыя, а яе шмат у парламенце, як бы мы да яго ні ставіліся, як бы ні крытыкавалі, — гавораць, не разумеючы адзін аднаго, то гэта вельмі небяспечны сімптом.

**— Зараз у Маладзечне на базе народнага тэатра ствараецца прафесійны тэатр, якім кіруе М. Мацкевіч. Як будуюцца Вашы адносіны з гэтым калектывам?**

— На пачатку я хацеў бы сказаць аб нашай канцэпцыі развіцця рэгіёна, якая зацверджана на сесіі, — гэта стварэнне ў Маладзечне культурна-індустрыяльнага цэнтра ў рамках рэгіянальнай праграмы і культурнага адраджэння. Усё гэта ўзгоднена з Міністэрствам культуры Беларусі. Нас падтрымлівае М. Дзямчук, які не раз прыязджаў у Маладзечна, знаёміўся з нашымі планамі. У горадзе існуе некалькі унікальных цэнтраў культуры. Здзіўляе, як пры цяперашнім стане культуры можна быць на такім высокім мастацкім узроўні. Мы па магчымасці падтрымліваем тэатр, але, на жаль, залежым ад абставін, і дапамога вельмі абмежаваная. Мяркую, пасля пабудовы новага Палаца культуры большасць праблем будзе вырашана. У мяне добры асабісты кантакт з дырэктарам тэатра. Мы нярэдка сустракаемся, літаральна на днях разам наведалі кіраўніцтва керамічнага завода, якое дапамагло вырашыць канкрэтныя пытанні па дапамозе тэатру. Але, як я ўжо казаў, наша дапамога мае свае межы.

**— Ужо стала традыцыйным і ў нас, а не толькі на Захадзе, задаваць пытанне вядомым палітычным дзеячам пра так званае "свецкае жыццё". Якое яно ў Вас, Віктар?**

— Заўсёды імкнуся весці, як Вы сказалі, "свецкае жыццё". У юнацтве ў мяне было адпаведнае культурнае інтэлектуальнае асяроддзе. Я вучыўся на юрыдычным факультэце БДУ, а ў інтэрнаце сябраваў са студэнтамі філфака, яны аддана захапляліся тэатрам. З тых часоў у мяне, хлопца, які прыехаў з глыбокай правінцыі, замацавалася любоў да мастацтва. Што датычыць апошняга часу, майго ўжо парламенцкага жыцця, то не застаецца часу не толькі на свецкае, а нават і на асабістае жыццё. І гэта заканамерна. Я апошнія паўтара года не належу сабе. Гэта мая драма. Падтрымліваю думку А. Сабчака (а ў нас шмат у чым падобныя жыццёвыя шляхі), што доўга займацца палітыкай шкодна. Нягледзячы на тое, што бракуе часу, я імкнуся да таго, каб падтрымаць нашы ўстановы культуры, пабываць на прэм'ерах, на ўсіх значных культурных мерапрыемствах.

Але, калі шчыра прызнацца, перавагу ў вольны час я аддаю футболу. Мы з Г. Карпенкам заўсёды наведваем футбольныя матчы ў Маладзечне, яны праходзяць як цудоўна арганізаваныя святы. Дарэчы, гэта заўсёды падкрэслівае спартыўная прэса.

**— Безумоўна, час для Вас як золата, а можа, і даражэй. Але сярод мноства прэм'ераў, выставаў, канцэртаў, прэзентацый і г.д. для Вас былі адкрыцці?**

— Дзеля таго, каб Вам уявіць маё жыццё, нагадаю графік працоўнага дня. У 7.30.— 8.00. я ўжо на працы. Вядома,хочацца быць у сям'і, бачыцца з сынам, але выходжу з дому ў 6.30., а вяртаюся ўвечары каля дзевяці. А калі працуеш па 16 гадзін у суткі, то ты не проста фізічна стомлены, але эмацыянальна вычарпаны. Неабходна пераключацца на нешта іншае. Менавіта мастацтва прыходзіць на дапамогу. Апошнія самыя моцныя эстэтычныя ўражанні — знаёмства з творчасцю нашых сімфанічнага і духавога аркестраў, таксама спадабалася аб'ядная выстава маладзечанскіх мастакоў і мастакоў з Эслінгена. Калі казаць пра літаратуру, то хапае часу толькі на газеты, з вялікай цікавасцю прачытаў палітычны дзённік А. Сабчака.

**— Роля палітыкі, вядома, вельмі важная. Але не менш важная і роля бацькі, які адказвае за лёс свайго дзіцяці. Як Вы спалучаеце гэтыя дзве ролі — народнага дэпутата Беларусі і бацькі дзевяцігадовагв сына?**

— Ужо банальным стала прыкрыццё інтарэсамі народа, агульнанацыянальнымі інтарэсамі. Мяне ж сама сітуацыя штурхнула ў вялікую палітыку, шмат у чым гэта выпадковы крок. Але прызнаюся шчыра: я ніколі не мог аперыраваць абстрактнымі катэгорыямі. Для мяне ўсё праецыруецца на асабістае жыццё, сям'ю, асабліва на сына. І калі казаць пра адказнасць за ўчынкі, то для мяне галоўнае — адказнасць перад сынам. Я рады, што жыву складаным жыццём. Вядома, шлях майго сына таксама будзе няпросты. Адзінае, ад чаго хацеў бы яго ўберагчы — ад барацьбы з дурнямі. На жаль, большасць сіл і здароўя ідзе менавіта на гэта. У маёй сённяшняй палітычнай дзейнасці галоўнае — стварыць і заканадаўча замацаваць такія ўмовы, такую структуру ўлады, каб быў выключаны прыход ва ўсе звенні кіраўніцтва, прабачце, дурняў, прайдзісветаў і пасрэднасцяў. Павінен існаваць жорсткі адбор кіраўнікоў. Калі ў першую чаргу будуць улічвацца здольнасці чалавека, то я з палёгкаю прызнаю, што мая задача

Гутарку вяла

Наталля ЗЕМЛЯКОВА.

---

*"... І ПЫТАЕЦЦА Галоўны Буржуін у сваіх буржуінаў:*

*—Ну што, буржуіны, ці дамагліся вы перамогі?*

*—Не, Галоўны Буржуін, — адказваюць буржуіны, — мы братоў з бацькамі разбілі, і зусім была наша перамога, ды прымчаўся на дапамогу Хлапчыш-Кібальчыш, і ніяк мы з ім не зладзім.*

*Дужа здзівіўся і раззлаваўся тады Галоўны Буржуін, і залямантаваў жахлівым голасам:*

*—Ці можа быць такое, каб не перамаглі Хлапчыша? Ах вы, нягоднікі, баязліўцы-буржуіўцы! Хіба не можаце вы разбіцт аднаго маленькага? Скачыце, і не вяртайцеся назад без перамогі!.."*

***

Вы можаце смяяцца, але Кібальчыш — улюбёны міф майго дзяцінства.

Усім хацелася быць Кібальчышамі, а таму мы гулялі ў "чырвоных і белых", "рускіх і немцаў"...

Праўда, ва ўсім гэтым была загадка, якую я так і не здолеў зразумець: што такое "Вайсковая таямніца" і навошта яе захоўваць?

Загадка гэтая псавала мне настрой і замінала жыць. І вось аднойчы, шпацыруючы па Менску, я ўбачыў шэры змрочны будынак з вялікімі літарамі на фасадзе: МИНСКОЕ СУВОРОВСКОЕ УЧИЛИЩЕ. "Ага! — узрадаваўся я, тут мне і растлумачаць, што такое Вайсковая Таямніца. Тут жа выхоўваюць гонар Чырвонага Войска, прафесійных Хлапчышоў-Кібальчышоў!

І хаця я крыху баюся чорных бомбаў, белых снарадаў ды жоўтых патронаў, а яшчэ больш — тых, каму гэтыя рэчы даспадобы, усё ж згадаў, што дзіцячыя міфы — гэта святое, і...

# ТАЯМНІЦА, ПРА ЯКУЮ ТАК І НЕ ДАЗНАЎСЯ ГАЛОЎНЫ БУРЖУІН

*" — Гэй, вы, хлапчышы-малышы! Ці нам, хлапчышам, толькі ў палкі гуляць ды ў скакалкі скакаць? І бацькі сышлі. Ці нам, малышам, сядзець і чакаць, каб буржуіны прыйшлі і забралі нас у сваё праклятае Буржуінства?"*

***

Натуральна, акрамя Вайсковай Таямніцы, мяне цікавілі і іншыя рэчы. Напрыклад: ці маральна даваць юнакам, па сутнасці, яшчэ дзецям, зброю, і вучыць прафесійна ёю карыстацца? І навошта бараніцца нам ад буржуінаў, якія сёння дапамагаюць краіне Кібальчышаў шчыра і бескарысліва, а кожны дзесяты хлапчышаў унук толькі і марыць, хутчэй эміграваць у праклятае Буржуінства?

У вучэльні мне сказалі, што Хлапчышы павінны і ў скалкі скакаць, і ў палкі гуляць, але прысвяціць з юнацкага ўзросту сваё жыццё абароне мірнай працы і чыстага неба — справа больш пачэсная і высакародная. "Ад каго ж бараніцца?" — пацікавіўся я. — "Як гэта ад каго? Ад жахлівых імперыялістаў-мілітарыстаў з агрэсіўных блокаў!"

Я не стаў пераконваць у адваротным, бо людзі, якія любяць чорныя бомбы, белыя снарады ды жоўтыя патроны, шчыра перакананы, што іх апаненты прадаліся міжнароднаму буржуінству за слоік варэння ды скрыню пячэння. А таму я толькі сціпла запытаў: "А што такое Вайсковая таямніца?" — "Гэта тое, растлумачылі мне, — пра што ворагі не павінны ведаць. Напрыклад — пра баявы дух нашага войска, пра сакрэтную зброю..."

Праз колькі дзён па адной буржуінскай радыёхвалі я пачуў, што таму і дапамагаюць нам і Высокае Буржуінства, і Раўніннае Каралеўства, і Снежнае Царства, што адмовіліся мы ад зброі і не палохаем больш навакольных буржуінаў сваёй ваяўнічасцю. Значыць, меў рацыю Хлапчыш-Благіш, які ўзарваў чорныя бомбы, белыя снарады ды жоўтыя патроны, бо разумеў заганнасць мілітарызму?

Але мала пазбавіцца зброі, трэба яшчэ адмовіцца ад уласнае ваяўнічасці. А навошта тады дзіцячыя і недзіцячыя вайсковыя гульні і нейкая жахлівая Вайсковая Таямніца, ахова якой аніяк не ідзе нам на карысць? Дый увогуле — для якога войска рыхтуе Хлапчышоў Мінская сувораўская вучэльня і ці патрэбна яна на Беларусі?

Адказ на гэтае пытанне і ёсць, напэўна, самая страшная Вайсковая Таямніца, пра якую не дазнаемся ані мы з вамі, ані Галоўны Буржуін.

Уладзіслаў АХРОМЕНКА.

ПРЫМРУЖАНЫМ ВОКАМ

# Здані і пачвары Беларусі

Да апошняга часу мала хто з беларускіх навукоўцаў даваў веры звесткам пра існаванне жудасных пачвар на тэрыторыі нашае Рэспублікі. І гэта нягледзячы на тое, што з часоў Ефрасінні Полацкай і Усяслава Чарадзея да часоў Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча накоплены вялікі фактычны матэрыял. На такое замоўчванне ёсць розныя прычыны: па-першае, беларускія пачвары не бралі чыннага ўдзелу ў станаўленні Савецкае ўлады. Па-другое, яны амаль не згадваюцца ў творах класікаў марксізму-ленінізму (адзінае выключэнне — "прывід камунізму"). Па-трэцяе, істоты гэтыя не ўваходзілі ў склад вайсковых злучэнняў, а некаторыя русалкі нават падтрымлівалі сувязі з акупантамі. І, нарэшце, галоўнае. Звычайныя сведкі існавання падобных істот — антыграмадскія элементы: злодзеі, п'яніцы, нацыяналісты, апошнім часам — і наркаманы. Уся справа — у спецыфіцы асяродкаў існавання пачвар і злыдухаў і часе іх з'яўлення. Які прыстойны чалавек, ды яшчэ ў цвярозым стане, пойдзе апоўначы на закінутыя могілкі ці загібельныя балоты? А таму людзей, якія расказвалі пра свае сустрэчы з пачварамі, лічылі вар'ятамі.

Такое стаўленне да пачварнага свету непапраўна збядняе беларускую культуру. Але дзякуючы намаганням патрыятычных колаў, у апошнія часы адраджасцца вера ў надзвычайнае.

Нашая мэта — распавесці пра асноўныя тыпы і віды айчынных пачвараў, бо кожны культурны і свядомы беларус павінен ведаць не толькі флору і фауну, але і пачварны свет сваёй Бацькаўшчыны. Як і ў класічнае біялогіі, пачвары маюць класіфікацыю.

Сёння мы пазнаёмім вас з класам могілкавых пачвар, найбольш распаўсюджаных і папулярных.

Могілкавыя пачвары звычайна вядуцца на цвінтарах, месцах былых баёў, у трупярнях, шпіталях, гатэльных нумарах, у якіх былі самагубствы, у апаганеных храмах, капліцах, у зладзейскіх прытонах — рэстарацыях, на ростанях. Апошнім часам да вышэйпамянёных месцаў даліся і апячатаныя будынкі былой КПБ-КПСС.

### І. ВУПАР.

Могілкавая пачвара, у якую ператвараецца кожны не пахаваны нябожчык, завецца вупарам. Класічны вупар — крывасмок і людажэр, але найбольш вынаходлівыя дзейнічаюць іншым чынам. Пачвара гэтая звычайна з'яўляецца па начах, каб помсціць людзям, вінаватым у ягонай загібелі. Вупары звычайна вядуцца ў мясцінах, дзе іх забілі. Над гэтым не варта смяяцца, бо гістарычныя хронікі сведчаць, што пасля шматлікіх войнаў са Швецыяй і Масковіяй у XVII стагоддзі на Беларусь было вялікае нашэсце вупароў. Менавіта ў тыя часы канчаткова выпрацавалася сістэма збаўлення ад гэтых жахлівых істот: злоснага вупара-рэцыдывіста можна забіць срэбнай куляй, пазначанай крыжам, або прабіць чэрап доўгім цвікам, а пасля пахавання паставіць у нагах крыж з асіны-аднагодкі.

Найбольш вядомы гістарычны вупар — наш зямляк, магілёўскі настаўнік, які ўвайшоў у гісторыю пад імем Лжэдзмітрыя.

Напачатку XVII стагоддзя, падчас акупацыі Масквы, Лжэдзмітрыя захапілі ў палон грамадзянін Мінін і князь Пажарскі. Небараку спалілі на вогнішчы, а попел зарадзілі ў гармату і стрэлілі ў бок Беларусі. З таго часу вупар не даваў спакою маскоўскім царам. І перастаў з'яўляцца толькі тады, калі апошняга Раманава арыштавалі на радзіме вупара, у слынным горадзе Магілёве.

(Працяг будзе).

ПОБЫТ НАШЫХ ПРОДКАЎ

# Бацвінне... літоўскае?

"Бацвінне літоўскае"... Вы думаеце, гэта назва стравы? Не, гэта назвіска, якое давалі ў Рэчы Паспалітай у XVI — XVII ст. нашым продкам-беларусам. Ну, накшталт "боўдзіла" ці, можа, трохі мякчэй.

Зняважлівасць гэтая была вымушанай: жыхароў Вялікага княства Літоўскага ніяк не ўдавалася растварыць, ператварыць у палякаў, здзейсніць запавет Пятра Скаргі: "Адна дзяржава, адна рэлігія, адзін народ". Яны ўпарта (за выключэннем часткі шляхты і магнатаў) помнілі аб былой самастойнасці, трымаліся роднай мовы і звычаяў.

Але чаму менавіта "бацвінне"? Таму, мабыць, што буракі (і, зразумела, бацвінне) елі ў асноўным яны, аратаі і пчаляры, плотнікі і кавалі. Сапраўды, у нашага народа шмат страваў, дзе ёсць буракі. Адна з іх дасюль носіць назву "Халаднік літоўскі". Падаем адзін з рэцэптаў прыгатавання гэтай стравы, якая не менш пераканаўча можа лічыцца і беларускай.

У 1/4 л бурачковага настою дадаць з 1/4 л густой смятаны, дадаць трохі кропу і 1 ч. лыжку нацёртай цыбулі. Дадаць 2-3 невялікіх свежых гуркі. Настойваць у халодным месцы каля дзвюх гадзін. У талерку пакласці варанае яйка, парэзанае на часткі і халодную запечаную цяляціну (калі ўдасца яе дастаць. Калі ж не, можна абыйсціся без яе).

Адна абавязковая ўмова: халаднік павінен быць сапраўды халодным.



Апраналіся ж людзі...

Фота Сяргея БРУШКО.

КультУра

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

**Рэдакцыя:**

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Намеснік галоўнага рэдактара — Тацццяна ДЗМІТРУСЁВА

Адказны сакратар — Уладзіслаў АХРОМЕНКА

Валянцін АКУДОВІЧ

Павел САВОСЬКА

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА

Наталля ЗЕМЛЯКОВА

Алена ТАБОРАВА

Анатоль КАЛЯДА

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД

Тэхнічны рэдактар — Дзіна КІРЫЛАВА

Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:

220030
МІНСК (МЕНСК), вул. КІРАВА 25, кв. 12

Тэлефон 27-83-18
©

Фармат А3
Індэкс 63875
Тыраж 10 000
Заказ 1814

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом Друку". 220041, Мінск (Менск), Ленінскі праспект, 79

Рукапісы, аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш, не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

М.1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12,.
Д.1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.